**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 32 (800) 6 жніўня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**У Глыбокім знойдзена адна са старэйшых мацэў Беларусі, яна датуецца 1708 годам. Гэта вызначыла навуковая экспедыцыя, якую зладзіла грамадская арганізацыя „Сэфер” (Расія).**
*Фота Таццяны Смоткінай.*



ISSN 2077-8023



Пастаўскі раён

# Для сяброў граніц няма

■ Кастусь Александровіч

**У сілу свайго трансгранічнага становішча многія беларускія рэгіёны апошнім часам актыўна пачалі супрацоўнічаць са сваімі бліжэйшымі замежнымі суседзямі.**

Скарыстаўся такой магчымасцю і Пастаўскі раён, які ўдзельнічае ў ажыццяўленні шэрагу праектаў еўрарэгіёна "Азёрны край" і мае ўжо 13 гарадоў-пабрацімаў. З адміністрацыйным цэнтрам латвійскай Латгаліі і цэнтрам Рэзекнянскага краю горадам Рэзекне райцэнтр падпісаў дагавор аб супрацоўніцтве і партнёрскіх кантактах 7 гадоў назад, а сувязі па розных накірунках сталі толькі мацнець. Вось і днямі афіцыйная прадстаўнічая беларуская дэлегацыя на працягу трох дзён зноў удзельнічала ў традыцыйных святочных урачыстасцях Латгаліі ў гэтым маляўнічым кутку Латвіі. З поспехам даў тры канцэрты заслужаны калектыў Беларусі, пастаўскі ансамбль фальклорнай і народнай музыкі "Паазер'е" ў двух валасцях краю і ў самім Рэзекне на заключным гала-канцэрце. Шмат карысных сустрэч меў з латышамі дэпутат абласнога Савета, дырэктар прадпрыемства "Паставымэбля" Сяргей Зямчонак, паколькі беларуская школьная мэбля пачала рэалізоўвацца і там. Беларускія госці таксама пабывалі на афіцыйным прыёме ў мэра краю, у адрэстаўрыраваным маёнтку, новай канцэртнай зале на тысячу месц для гледачоў, у цэнтры дзіцячай творчасці. З пастаўчанамі таксама пажадаў правесці вельмі цёплую сустрэчу новы латвійскі прэзідэнт Раймонд Вейоніс, які ў маладосці служыў у Савецкай арміі менавіта на іх радзіме.

Браслаўскі раён

# Хто дбае, той і мае

■ Чэслаў Якубовіч.

**Пры ўсіх існуючых цяжкасцях і на Віцебшчыне можна і патрэбна дабівацца станоўчых вынікаў у развіцці мяснога і малочнай жывёлагадоўлі, пра што шмат гаварылася на абласным семінарынарадзе ў Глыбоцкім раёне.**

У ім удзельнічаў адзін з намеснікаў міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Ігар Дрыла і адзначыў станоўчую дынаміку паляпшэння спраў на фермах у 13 рэгіёнах Прыдзвіння. У ліку тых, хто дабіўся найбольшай прыбыткі, называўся раней моцна адстаючы Браслаўскі раён. У азёрным краі палепшылася праца па вытворчасці і рэалізацыі малака, а мясцоваму флагману, сельгаспрадпрыемству "Маяк Браслаўскі" цяпер няма роўных па прадукцыйнасці і па ўсёй вобласці. Калектыў фермы "Ёдлавічы" па выніках працы ў першым паўгоддзі стаў лепшым сярод аналагічных больш 120 комплексаў з даільнымі заламі. На кожную карову там надойваюць сёлета ўжо пад 19 літраў малака штодзень выключна класу "экстра". На крыху меншай ферме ў Якавічах надоі яшчэ большыя, пад 26 кг сырадою, а асобныя рагулі даюць як у лепшых фермераў Еўропы, нават па 45 літраў малака ў дзень. Сакрэт такіх дасягненняў просты, трэба выконваць усе тэхналогіі, мець добрыя кадры і кармы. У гэтай гаспадарцы ўжо тры разы падкасілі і падкармілі ўсе ўчасткі для пашы. Не было тут збояў з дастаўкай вады на вялікіх ёмкасцях трактарамі для паення пяці гуртоў жывёлы нават на аддаленых палетках. З запасам запасліся кармамі ўжо з першага ўкосу траў для прадстаячай зімоўкі. Людзі зацікаўлены ў выніках працы і добра зарабляюць, паколькі рэнтабельнасць жывёлагадоўлі ў браслаўчан дасягае 42 %, пра што, аднак, многія іншыя гаспадаркі вобласці могуць толькі марыць.

Аршанскі раён

# Кітайцы многае могуць

■ Станіслаў Раманчук.

**Цяперашні эканамічны крызіс патрабуе паўсюдна прымаць неардынарныя падыходы, каб выправіць становішча і па сутнасці стварыць новую структуру вытворчасці.**

Вось і ў Аршанскім раёне летам быў дадзены старт новаму праекту па ўзвядзенні сучаснага буйнога транспартна-лагістычнага цэнтра ў гарпасёлку Балбасава. У маі прайшла яго прэзентацыя для патэнцыйных інвестараў, і самы вялікі інтарэс праявілі бізнесмены з далёкага Кітая. Яны некалькі месяцаў усё дэталёва пралічвалі і вырашылі на базе мясцовага Аршанскага авіярамонтнага завода стварыць буйнейшы ў Беларусі лагістычны бізнес-цэнтр на плошчы 100 гектараў з магутнай энергетычнай устаноўкай. Адпаведны дагавор паміж кітайскай кампаніяй "Sinodro Bureau 4CO. Ltd", аддзяленнем банка правінцыі Ціньхай падпісаў адзін з рэзідэнтаў СЭЗ "Віцебск". На ажыццяўленне поўнасцю гэтага грандыёзнага праекта пойдзе да 10 гадоў і першапачаткова ўзвядуць 15 вялізных складскіх модуляў, правядуць рэканструкцыю дзеючай узлётна-пасадачнай паласы ўнікальнага з часоў СССР аэрадрома для цяжкой бамбардзіровачнай авіяцыі. Таксама замежныя партнёры з Паднябеснай пабудуюць, як яны гэта ўмеюць, за кароткі тэрмін зону жыццядзейнасці і адміністрацыйны цэнтр, кафэ, гасцініцу, шматлікія аўтастаянкі. У гэтым бізнес-цэнтры знойдуць сабе новую працу да 400 чалавек, а займацца ён будзе дастаўкай і далейшай перапраўкай вялікай групы тавараў з Азіі ў Еўропу і стане падобным на такі ж комплекс славутага Чаркізаўскага рынку. З яго ўзвядзеннем у беларускіх прадпрымальнікаў адпадзе неабходнасць ездзіць за патрэбнымі таварамі на расійскія аптовыя рынкі.

# Аб самым надзённым

## НА ФОНЕ ПАДЗЕННЯ РЭАЛЬНЫХ ДАХОДАЎ БЕЛАРУСАЎ НА 5 % ВЯДУЧЫЯ ВНУ КРАІНЫ ПАВЫСІЛІ КОШТ НАВУЧАННЯ СТУДЭНТАЎ-ПЛАТНІКАЎ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Аднак у сферы адукацыі свае правілы і, не дачакаўшыся нават залічэння студэнтаў-першакурснікаў, шэраг асноўных і самых прэстыжных айчынных універсітэтаў аб'явілі аб павышэнні кошту навучання на платных аддзяленнях ВНУ ў сярэднім на 10-15 %.**

Сярэдзіна лета ў Беларусі штогод - не толькі самы цёплы час года, але і перыяд асаблівых хваляванняў для маладых людзей, іх родных і блізкіх. Па ўсёй краіне цяпер практычна штодзень ажыўлена ў прыёмных камісіях ВНУ, сярэдне-спецыяльных навучальных устаноў, а таксама каледжаў, ліцэяў і прафтэхвучылішчаў. У гэтым годзе ў беларускіх абітурыентаў быў роўна тыдзень на тое, каб вызначыцца: куды падаваць дакументы і сертыфікаты з набранымі баламі аб праходжанні цэнтралізаванага тэсціравання.

Дарэчы, у 2015 годзе ў ЦТ па краіне ў цэлым удзельнічала крыху меней юнакоў і дзяўчат, чым летась, а ў нас на Віцебшчыне –нават на 1,3 тысячы чалавек. Гэты і наступны этапы ўступнай кампаніі праходзілі, трэба адзначыць, арганізавана і спакойна. Абітурыенты і іх бацькі зараз добра арыентуюцца, падлічваюць свае набраныя балы і прыкладна ведаюць, на што можна разлічваць, на які факультэт паступіць і пажадана на бюджэтную форму навучання. Толькі невялікая частка моладзі не з самымі высокімі баламі адкладвае ўсё на апошнія гадзіны працы прыёмнай камісіі, пільна адсочвае конкурс, каб патрапіць на "бюджэт".

Увогуле цяпер у Беларусі вядзецца падрыхтоўка спецыялістаў па 350 розных спецыяльнасцях, выбар куды пайсці вучыцца, сапраўды, шырокі. Іншая справа, што многім сем'ям на фоне няпростай сітуацыі ў эканоміцы прыходзіцца шмат хвалявацца з-за таго, ці хопіць сродкаў на далейшае навучанне сваіх дзяцей. Ужо па афіцыйных дадзеных Белстата, сёлета ў студзені-маі рэальныя даходы беларусаў знізіліся на 5 %. Насельніцтва пакрыху бяднее, і такі працэс працягваецца нават з красавіка мінулага года. У цэлым кіраўніцтва краіны не мае магчымасці павышаць заробкі, пенсіі нават перад прэзідэнцкімі выбарамі і паставіла задачу хоць бы цэны і тарыфы не павышаць. У прыватнасці, мяркуемае вясной падаражанне праезду ў грамадскім транспарце па гэтай прычыне не адбылося.

Аднак у сферы адукацыі свае правілы і, не дачакаўшыся нават залічэння студэнтаў-першакурснікаў, шэраг асноўных і самых прэстыжных айчынных універсітэтаў аб'явілі аб павышэнні кошту навучання на платных аддзяленнях ВНУ ў сярэднім на 10-15 %. Самым "дарагім" аказаўся, як і раней, сталічны Белдзяржуніверсітэт, дзе на факультэце міжнародных адносін і на юрфаку за год навучання па лепшых спецыяльнасцях трэба заплаціць ужо амаль 25 млн. рублёў. У цэлым навучанне ў БДУ стала даражэйшым ад 2,3 да 3,1 мільёна рублёў, а найтанней тут атрымаць прафесію філолага за 17, 7 млн. рублёў, завочнае навучанне таксама ў 2 разы танней.

Павысілі кошт вучобы і іншыя мінскія ўніверсітэты – БДЭУ, БНТУ, БДУІР, БДПУ імя Максіма Танка. Праўда, дзве навучальныя ўстановы Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце і Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт цэны пакінулі старыя, але там за год навучання, як і летась, трэба будзе заплаціць на платным аддзяленні ад 18 млн. рублёў. Сумы, што і казаць, немаленькія, асабліва, калі ўлічыць, што па краіне з кожным месяцам павялічваецца колькасць прадпрыемстваў і арганізацый, якія сталі затрымліваць выдачу зарплаты сваім работнікам. Зразумела, найбольш трывог з гэтай нагоды было ў моладзі з бацькамі з сельскай мясцовасці, асабліва калі на першых курсах ім яшчэ прыходзіцца наймаць здымную кватэру ў сталіцы пры адсутнасці месц у студэнцкіх інтэрнатах.

Таксама зараз у Беларусі атрымоўваюць вышэйшую адукацыю яшчэ 11 тысяч замежных студэнтаў. Дарэчы, па папярэдніх звестках, асноўныя нацыяльныя ўніверсітэты планы набору сёлета выканаюць як на бюджэтных месцах, так і на платных аддзяленнях. Іншая сітуацыя можа быць у ВНУ на перыферыі, куды паступалі абітурыенты з больш нізкімі баламі. Таксама спецыялісты адзначаюць, што працягвае падаць прэстыж прафесіі настаўніка, бо ў педагагічныя ВНУ падалі дакументы многія абітурыенты з набранымі баламі ад нават 100 і да 200 балаў.

Як і раней, тыя, хто не змога прайсці па конкурсе ў ВНУ і не разлічвае вучыцца платна з-за нізкіх даходаў сям'і, можа ў далейшым паспрабаваць паступіць на ўсе формы атрымання сярэдне-спецыяльнай адукацыі. Новы навучальны год будзе адметны для Беларусі яшчэ і таму, што наша краіна нарэшце далучылася да Балонскага працэсу агульнаеўрапейскіх прынцыпаў атрымання вышэйшай адукацыі. Адным з яе галоўных палажэнняў будзе выбарнасць рэктараў вышэйшых навучальных устаноў. У нас гэты прынцып пачне дзейнічаць з верасня сёлета.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 06.08.15 | | | | Пятніца 07.08.15 | | | | Субота 08.08.15 | | | | Нядзеля 09.08.15 | | | | Пан. 10.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +18 | +21 | +29 | +23 | +19 | +23 | +31 | +23 | +19 | +22 | +31 | +23 | +19 | +24 | +32 | +26 | +21 | +24 | +32 |
| Ціск | 751 | 752 | 752 | 751 | 751 | 751 | 752 | 752 | 752 | 753 | 753 | 752 | 751 | 751 | 751 | 750 | 749 | 749 | 749 |
| Вецер м/сек | 3 Ю | 5 Ю-В | 3 Ю | 4 Ю-В | 3 Ю | 4 Ю-В | 5 Ю-З | 1 Ю | 3 С-В | 3 В | 4 З | 2 Ю-В | 3 Ю | 4 Ю-З | 6 Ю-З | 3 Ю | 2 Ю-З | 2 Ю | 4 З |
| Вільготнасць | 82 | 69 | 43 | 75 | 82 | 63 | 38 | 78 | 100 | 83 | 47 | 86 | 75 | 52 | 33 | 58 | 65 | 54 | 33 |

## Дзень за днём

**Урад Беларусі зацвердзіў план асноўных мерапрыемстваў па дэбюракратызацыі дзяржапарату. Ужо 350 будаўнічых арганізацый краіны сталі стратнымі. Беларусы ў чэрвені пачалі забіраць свае рублёвыя ўклады з банкаў. Большасць суайчыннікаў сталі эканоміць на пакупках, чвэрць насельніцтва скараціла свае расходы на харчаванне. Цэны на навучанне ў вядучых айчынных ВНУ павысіліся на 10-15 %. Судовыя выканаўцы атрымалі права адключаць даўжнікоў ад Інтэрнэта і мабільнай сувязі. Да гістарычнага мінімуму панізіўся ўзровень вады ў беларускіх рэках.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іран.** У выніку адмены санкцый неўзабаве пачнецца рост экспарту іранскай нафты і падзенне сусветных цэн на яе ў 2016 годзе ніжэй 40, а можа нават і 25 долараў за барэль.

**Грэцыя.** Пасля напружаных дэбатаў і расколу ў правячай партыі парламент краіны прыняў новыя меры жорсткай эканоміі для атрымання чарговай фінансавай дапамогі ЕС.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка ўнёс у парламент праект змен у Канстытуцыю краіны з асаблівым статусам для Данецкай і Луганскай абласцей, каб там усталяваўся мір.

**Галандыя.** Следчыя і эксперты ўслед за спецслужбамі Германіі знайшлі доказы, з якой кропкі прарасійскія сепаратысты збілі над Данецкам малайзійскі самалёт "Боінг".

**ЗША.** Сваякі 18 пасажыраў збітага ў Данбасе авіярэйса МН17 падалі ў Федэральны суд штата Ілінойс іск супраць тагачаснага "міністра абароны ДНР" І. Гіркіна (Стралкова).

**Германія.** Пратэстам супраць стварэння міжнароднага трыбунала ААН Расія, як заявіў былы віцэ-прэм'ер РФ А. Кох, дэфакта прызнала сваю віну і ўдзел у вайне на Данбасе.

**Аўстралія.** Журналісты апублікавалі відэа агіднага марадзёрства прарасійскіх баевікоў адразу пасля збіцця рускімі ваеннымі малайзійскага Боінга з яўнымі доказамі іх віны.

Італія. На тэрыторыі краіны і ў паветранай, воднай прасторы Іспаніі, Партугаліі напрыканцы восені пройдуць буйнейшыя за апошнія 13 гадоў ваенныя вучэнні НАТО.

**Украіна.** З-за ўнутранага канфлікту сярод главароў баевікоў "ДНР" невядомыя падарвалі ў Данецку аўтамабіль сакратара главы прарасійскіх сепаратыстаў А. Захарчанкі.

**Расія.** Аб'ёмы рознічнага гандлю РФ у чэрвені знізіліся на рэкордныя 8,9 %, рэальныя даходы насельніцтва зніжаюцца ўжо 8-мы месяц запар, у маі аднавіўся рост беспрацоўя.

**Казахстан.** Урад краіны адмяніў візавы рэжым да 31 снежня 2017 года для грамадзян ЗША, Японіі, Сінгапура і яшчэ 16 дзяржаў ЕС для прыцягнення інвестараў і турыстаў.

**Расія.** Урад РФ зацвердзіў пагадненне аб выдачы Беларусі дзяржкрэдыту ў рублях на суму ў эквіваленце 760 млн. $ на абслугоўванне % па ранейшых займах і пазыках.

**Украіна.** Глава Адэскай вобласці М. Саакашвілі прызначыў сваім памочнікам для правядзення рэформ апазіцыйнага расійскага палітыка, 33-гадовую Марыю Гайдар.

**Літва.** Новы мэр Вільнюса Р. Шымашюс загадаў прыбраць на рамонт з Зялёнага маста 4 моцна праржавеўшыя савецкія скульптуры, што выклікала абурэнне рускіх жыхароў.

**Францыя.** З-за моцнай 40-градуснай гарачыні на працягу тыдня загінула ўжо 700 чалавек, колькасць зваротаў да ўрачоў павялічылася ў 10 разоў, будзе вельмі спякотна і надалей.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Краіне спадзявацца на новы крэдыт МВФ не варта, як папярэдзіў старшыня БКДП А. Ярашук, бо там спецыялісты бачаць тое, што беларусы паўтараюць шлях Грэцыі.

**Ліда.** На вытворчых плошчах ААТ "Лідскае піва" пачалі выпускаць да 12 тысяч у гадзіну 1,5 літровых бутэлек знакамітых у свеце безалкагольных напояў Pepsi, 7up і Mirinda.

**Салігорск.** Рэспубліканскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі пацвердзіў, што на "Беларуськаліі" адзін з самых высокіх у краіне ўзроўняў прафзахворваемасці сярод работнікаў.

**Брэст.** Пракурорская праверка па факце гібелі дзяўчынкі ў аквапарку Кобрына выявіла грубыя парушэнні правілаў бяспекі на вадзе з боку дарослых, арганізатараў паездкі туды.

**Пінск.** На 2 месяцы арыштавалі траіх п'яных рускіх казакоў, удзельнікаў коннага паходу з Масквы, якія ў інтэрнаце распачалі бойку і збілі маладога студэнта беларуса.

**Быхаў.** Паблізу вёскі Лісічнік невядомыя зламыснікі знішчылі дамбу штучнага вадаёма плошчай 1,1 гектара, вады ў ім не стала і на гэтым возеры загінула ўся рыба.

**Мінск.** Глава МЗС У. Макей заявіў, што эканамічныя праблемы ў Расіі і на іншых знешніх рынках негатыўна ўплываюць на напружаную сітуацыю ў эканоміцы Беларусі.

**Жыткавічы.** Вялікія штрафы па 19 млн. руб. заплоціць жыхары вёскі Бяражцы, па віне якіх падчас збору чарніц адбыўся пажар і згарэлі 72 гектары лесу Палескага лясгаса.

**Смаргонь.** Падатковая інспекцыя налічыла мясцоваму жыхару 18 млн. рублёў падатку і 1,3 млн. – штрафу, ён летась больш 100 разоў ездзіў за мяжу, купіў кватэру і аўтамабіль.

**Мінск.** Музей гісторыі беларускага кіно адкрыў пункт бук і фільмакросінга, любы жадаючы можа ўзяць тут кнігу альбо фільм, а таксама пакінуць іншым наведвальнікам.

**Гродна.** Міліцыя пачала праверку скаргі трох жанчын на нелегальную клініку, дзе ім няўдала зрабілі павелічэнні воснаў, двaім зноў пасля гэтага спатрэбіцца хірургічная аперацыя.

**Мінск.** Сусветнае антыдопінгавае агенцтва (ВАДА) за ўжыванне геннагадопінгу дыскваліфікавала на 4 гады двух беларускіх лёгкаатлетаў А. Ананенка і Я. Рачка.

**Брэст.** У былых казармах Брэсцкай крэпасці пабудовы XIX стагоддзя, філіяле абласнога краязнаўчага музея пачаўся цыкл канцэртаў па пятніцах класічнай музыкі.

**Мінск.** Кантралёры "Мінсктранса" за паўгода аштрафавалі за праезд без аплаты 51 тысячу чалавек, пасля выбараў праезд на грамадскім транспарце можа істотна падаражэць.

**Гродна.** Упершыню ў горад прыплыла з Польшчы за 2 дні падарожжа па Аўгустоўскім канале, а потым па Нёману парусная яхта з сям'ёй чатырох чалавек з Беластока.

## У Беларусі пачалі дзейнічаць новыя правілы перавозак пасажыраў і багажу чыгуначным транспартам



■ **Аляксей Арэшка, БелаПАН**

**Новыя правілы перавозак пасажыраў, багажу і грузабагажу чыгуначным транспартам агульнага карыстання пачалі дзейнічаць у Беларусі 1 жніўня, паведамілі ў прэс-службе Беларускай чыгункі.**

Правілы зацверджаныя пастановай Савета міністраў № 609 ад 17 ліпеня 2015 года. Пастановай унесеныя шэраг змяненняў і дапаўненняў у ранейшы дзейныя парадак перавозак, частка нормаў удасканаленыя з улікам практыкі іх прымянення.

Дакументам вызначаны, у прыватнасці, парадак афармлення, пераафармлення і праезду па праязных дакументах (білетах). Так, устаноўлена, што пры пераафармленні праязнога дакумента на больш ранні цягнік, у выпадку змяншэння кошту праезду пасажыру вяртаецца розніца ў кошце праезду. Дагэтуль розніца ў кошце праезду ў такіх выпадках не вярталася.

Яшчэ адным новаўвядзеннем стане тое, што з 1 жніўня афармленне абанементных білетаў працоўнага дня будзе ажыццяўляцца без указання прозвішча, імя і імя па бацьку. Гэта адзначае, што праязны дакумент будзе афармляцца без паказу дакумента, які сведчыць асобу.

Акрамя таго, вяртанне грашовых сродкаў за нявыкарыстаныя абанементныя білеты будзе ажыццяўляцца на падставе заявы пасажыра без паказу дакументаў, якія пацвярджаюць прычыну вяртання.

## «Тунеядские» дэкларацыі пачалі прымаць падатквікі Беларусі

■ **Белнавіны**

**З 1 жніўня 2015 грамадзяне, якія не ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржаўных расходаў або якія ўдзельнічаюць у ім менш 183 дзён у годзе, павінны будуць выплаціць збор у памеры 20 базавых велічынь.**

Так, усе дакументы аб няўдзеле ў фінансаванні дзяржаўных расходаў можна падаць у ІМПЗ з 1 жніўня 2015 года.

У адпаведнасці з Дэкрэтам Прэзідэнта Беларусі №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства», плацельшчыкі збору могуць самастойна прадставіць у ІМПЗ апавяшчэнне аб сваім няўдзеле ў фінансаванні дзяржаўных расходаў.

Варта адзначыць, што пры падачы такога паведамлення сума збору будзе паменшаная на 10%.

Дэкларацыю неабходна падаць у ІМПЗ з 1 жніўня 2015 г па 31 мая 2016 года, а сам збор неабходна будзе аплаціць не пазней 1 ліпеня 2016 года.

Нагадаем, што нявыплата або няпоўная выплата збору цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад 2 да 4 базавых велічынь або адміністрацыйны арышт з абавязковым прыцягненнем да выканання грамадска карысных работ.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На выязным пасяджэнні Савета па развіцці прадпрымальніцтва былы віцэ-прэм'ер П.Пракаповіч раскрытыкаваў праграму развіцця Беларусі ў 2016-2020 гадах.

**Паставы.** Услед за прадпрыемствам ПМЦ і вытворча-мэблевы цэнтр перайшоў на вытворчасць без адыходаў, стаў выпускаць да 3,5 тысяч дзвярэй штомесяц.

**Віцебск.** Пасля гучнага ДТЗ з трыма загінуўшымі ДАІ за адны суткі падчас рэйдаў затрымала 20 матацыклістаў-ліхачоў, парушальнікаў правілаў дарожнага руху.

**Наваполацк.** Адным з прэтэндэнтаў у прэзідэнты стаў 36-гадовы дырэктар турыстычнай і транспартнай кампаній Андрэй Канавец, у ягонай ініцыятыўнай групе 100 чалавек.

**Браслаў.** Новы глава раёна У. Дранеўскі вырашыў правесці аптымізацыю існуючых 56 ферм і размясціць дойны статак паблізу цэнтральных сядзіб лепшых гаспадарак краю.

**Чашнікі.** Падчас рабочай паездкі на Урал дэлегацыя раёна падпісала мемарандум аб плённым супрацоўніцтве з Кізільскім раёнам Чэлябінскай вобласці.

**Наваполацк.** На сустрэчы з прадстаўнікамі ўстаноў адукацыі вобласці віцэ-прэм'ер урада Н. Качанава паведаміла, што ў 10 класы будуць прымаць толькі з сярэднім балам ведаў 7.

**Докшыцы.** На двух з чатырох сваіх пажарна-назіральных вежаў Бягомльскі лясгас устанавіў сучасныя сістэмы відэаназірання з радыусам прагляду за лесам амаль 25 км.

**Полацк.** За лічаныя хвіліны прыбылі па выкліку супрацоўнікі МНС і знялі з адкрытага акна 5-га паверха жылога дома 4-гадовага хлопчыка, які цудам не зваліўся адтуль.

**Глыбокае.** На трасе Полацк-Паставы пры ўездзе ў райцэнтр з'явіўся прыгожы сімвал горада ў выглядзе крэпаснай сцяны з гербам і датай заснавання 1414 год.

**Верхнядзвінск.** Вядомы мясцовы краязнаўца Антон Бубала падрыхтаваў да друку падручнік для школьнікаў пра родны край і метадычны дапаможнік – для настаўнікаў.

**Мёры.** Сярод хлопчыкаў 14-15 гадоў стаў вельмі папулярны новы клуб лазерных ваенізаваных гульняў "Палігон Б2М", у яго запісаліся ўжо 250 чалавек.

**Віцебск.** Канцэртная зала Летняга амфітэатра на 6500 месц не змясціла ўсіх жадаючых паглядзець канцэрт папулярнай рускай рок-групы "Бі-2", людзі занялі ўсе праходы.

**Наваполацк.** У выставачнай зале музея гісторыі і культуры адкрылася цікавая выстава "Жывыя драконы", дарослыя і дзеці асабліва цікавяцца паводзінамі хамелеона, пітонаў.

**Шуміліна.** Школьнік з гарпасёлка Обаль Вадзім Грачухін стаў пераможцам Балтыйскіх юнацкіх гульняў у Германіі па класічнай барацьбе ў вагавай катэгорыі да 76 кг.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

### З глыбоцкага жыцця 1930-х гг

# Як мэр і архітэктар Глыбокага “пілілі бабкі”

**Мы ўжо змяшчалі ў нашай газеце інфармацыю аб будаўніцтве ў Глыбокім прыстані на возеры Беразвецкім. Гэты будынак некалі ў народзе называлі “дом са шпілем”.**

**Аднак, высветліліся цікавыя акалічнасці гэтага будаўніцтва, аб якіх размова пойдзе ніжэй.**

У даваеннай Польшчы, куды і ўваходзіў наш край, было свята – Свята Мора. Гэтае свята ідзе ў кантэксце польскага дэвізу – “Польшча – ад мора да мора!” Сапраўды, калі згадаць спракавечныя часы, то Рэч Паспалітая, некалі была ад Балтыйскага да Чорнага мора. Таму лагічна, што да такога свята ў Глыбокім было вырашана пабудаваць прыстань. Хоць Глыбокае ляжыць і не каля мора, але ж зусім і не сухапутны горад! Азёры ёсць!

***

Пачнём з перадгісторыі будаўніцтва прыстані на возеры Беразвецкім. Газета “Kurjer Wileński” ад 29 чэрвеня 1934 года змясціла такую нататку:

**“Весткі з Глыбокага”**

“Будаўніцтва найноўшай прыстані. Дзякуючы ініцыятыве бурмістра г. Глыбокае Эдварда Кальбушэўскага ў Глыбокім над возерам Беразвецкім распачата будаўніцтва найноўшай прыстані[1], якая будзе знаходзіцца ва ўласнасці Стралецкага Саюза. У земляных работах бярэ ўдзел арганізацыя, а таксама работнікі некаторых устаноў. План будынка быў апрацаваны інжынерам Малчынскім, прычым у цэлым ён вытрыманы ў чыста польскім стылі[2].

29 чэрвеня, як у дзень Свята Мора, адбудзецца ўрачыстае асвячэнне вуглавога камяня”.

**Заўвагі рэдакцыі:**

1. Трэба разумець, што глыбоцкая прыстань, насамрэч, была лодачнай станцыяй. Насупраць будынка прыстані – пляж і валейбольная пляцоўка.

2. Мы разумеем гэта як “закапанскі стыль”, папулярны ў 1920-30-я гг.

***

Далей – самае цікавае! Нічога не змянілася за 80 гадоў! Ва ўяўленні простага і няпростага народу, як тады, так і сёння, любая будоўля – момант, калі ад ласага кавалка, то бок каштарыса будоўлі, можна – кажучы сучасным жаргонам –“адпіліць свой кавалак бабак”! Так і адбылося!

***

Без малога праз год – 19 чэрвеня 1935 года – газета “Kurjer Wileński” паведамляе:

**“Працэс над былым бурмістрам Глыбокага Кальбушэўскім**

У аўторак віленскі акруговы суд на выязной сесіі прыступіў да разгляду справы бурмістра Глыбокага Эдварда Кальбушэўскага, які абвінавачваецца ў перавышэнні ўлады і махлярстве. Кальбушэўскі, як ужо паведамляла прэса, стаўся ў лютым адхілены ад кіравання, у сакавіку ж арыштаваны і пасаджаны пад арышт на Лукішкі[3]. Цяпер быў прывезены ў Глыбокае.

Слуханні ўзначаліў намеснік старшыні акруговага суда Бжастоўскі. Выносіць абвінавачванне пракурор Ячыноўскі, абараняе адвакат Шышкоўскі. Грамадскі пазоў ад імя гарадской управы падтрымлівае адвакат Чэрніхаў.

Акт абвінавачвання, які ўтрымлівае некалькі дзясяткаў старонак машынапісу, інкрымінуе Кальбушэўскаму растрату 2000 злотых, укладанне інвестыцый у прыватнае жыллё коштам горада, а таксама іншыя падобныя злачынствы.

Пасля прачытання акта абвінавачвання Кальбушэўскі складаў колькі гадзін працяглыя тлумачэнні, паля чаго суд прыступіў да слухання сведкаў, лічба якіх перавысіла 50.

Гэты працэс выклікаў вялікую цікавасць. Зала судовых слуханняў перапоўненая. З асаблівай цікавасцю чакаюцца паказанні аднаго з галоўных сведкаў абвінавачвання інспектара Пятрышчага, а таксама выкліканага на разгляд у якасці сведкі-эксперта ваяводскага інспектара самаўрадавых саюзаў Жылкі.

Расследаванне будзе доўжыцца верагодна пару дзён”.

***

І, нарэшце, газета “Kurjer Wileński” ад 20 чэрвеня 1935 года паведамляе вынікі судовага працэсу:

**“Б(ылы) бурмістар Глыбокага асуджаны на 2 гады зняволення.**

Пасля двухдзённых судовых слуханняў дня 19 бягучага месяца а гадзіне 21-ай віленскі акруговы суд прыгаварыў абвінавачанага былога бурмістра горада Глыбокае Эдварда Кальбушэўскага за перавышэнне ўлады і растрацe грошай па арт.286 §1 і §2 і арт. 287 §1 на два гады зняволення, а таксама страцe правоў ганаровых і грамадзянскіх на 5 гадоў.

Кальбушэўскі быў вызвалены ад прэвенцыйнага арышту і аддадзены пад нагляд паліцыі.

Мячыслаў Малчынскі[4], супольна абвінавачаны, быў асуджаны тым самым выракам на 6 месяцаў заключэння з адтэрміноўкай на 5 гадоў.

Вырак неканчатковы.

**Заўвага рэдакцыі:**

**3.** Лукішкі – турма і следчы ізалятар у Вільні.

**4.** Аўтар праекту прыстані (гл. па тэксту вышэй).

***

**Эпілог**

**Бурмістрам Глыбокага абралі настаўніка**

Хто стаў бурмістрам Глыбокага пасля выраку суда адносна Эдварда Кальбушэўскага? Газета “Kurjer Wileński”, №36, ад 7 лютага 1936 года паведамляе:

**“Глыбокае. Новы бурмістр горада.**

3 дня б(ягучага) м(есяца) у Глыбокім адбыліся выбары бурмістра горада. Гарадская Рада абрала на гэтую пасаду настаўніка гарадской гімназіі імя Люблінскай Уніі п(ана) Германа Свіркліса, кандыдатура якога была зацверджаная.

Трэба адзначыць, што папярэдняя ўправа была скасаваная з-за Эдварда Кальбушэўскага, які выракам Акруговага Суда быў асуджаны на 2 гады заключэння за растрату”.



Будаўніцтва прыстані на возеры Беразвецкім (Вялікім), верасень 1934 г. Не захавалася. На месцы прыстані – дамы №№ 57і 59 па вул. Савецкай.



На возеры Беразвецкім, 1930-я гг.

### Ізноў аб плісікіх сырах!

# У Плісе выраблялі караля сыроў – сыр Эменталь!

### У Глыбокім была фірмовая крама!

■ Уладзімір Скрабатун

Нядаўна [“ВГ”№ 30 (798), ад 23 ліпеня 2015 года] у нашай газеце быў апублікаваны матэрыял **“Неверагодна! Былі часы, калі пліскія сыры ішлі на экспарт!”**. Там паведамлялася аб паспяховым малачарскім кааператыве ў Плісе, які займеў свой росквіт у 1930-я гг. Яго прадукцыя – масла і сыры – ішлі на экспарт.

Аднак тэма Малачарскага Кааператыва ў Плісе гэтым зусім не вычарпаная. Ледзьве не штодня адзін з нашых калегаў Кастусь Шыталь, чытаючы газеты 1930-х гг, знаходзіць сенсацыйныя звесткі аб гісторыі нашага краю перыяду 1920-30-х гг.

Напрыклад, газета “Kurjer Wileński” ад 1 лютага 1936 года прысвячае Малачарскаму Кааператыву ў Плісе аж ці не палову газетнай паласы!

Аказваецца, там паведамляецца, што *“у серыі прац Кафедры Аграрнай Эканомікі Універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні пад рэдакцыяй праф(есара) д(октара) Вітальда Станевіча нядаўна на паліцах кнігарняў з’явілася праца п(пана) інж(ынера) Вернера Амберга пад назвам “Малачарскі Кааператыў у Плісе”*[1].

Кніга ўтрымлівае аж 106 старонак! *“Як шматкроць падкрэслівае аўтар, Малачарскі Кааператыў у Плісе аказвае глыбокі дадатны ўплыў на гаспадарчае і культурнае жыццё мясцовага насельніцтва”*– падкрэслівае аўтар артыкула ў “Kurjery”, анансуючы вышэй згаданую кнігу.

Натуральна, аўтар мае рацыю, у беднай краіне, дзе народ жыве ў галечы, не можа быць ніякай культуры, як і культуры гаспрадарчай. Кіраўніцтва Кааператыву вяло прапагандыскую працу сярод сялянаў, каб сеялі канюшыну і кармавыя буракі – каб такім чынам узняць надоі малака. І паведамляецца, што гэта ўдалося!

*«Малачарскі Кааператыў у Плісе,–* піша далей “Kurjer”, *– у кароткім адносна часе грунтоўна змяніў характар тамтэйшай вёскі, адкрываючы перад ёй мажлівасці далейшага гаспадарчага развіцця”.*

Аўтар гэтага артыкула не збіраецца тут шкадаваць “аб часах даўно забытай Польшчы”, хаця б з тае нагоды, што наш народ, пасля 17 верасня 1939 года, нарэшце, з’яднаўся ў адну дзяржаву пад назвам Беларусь. Мы ж падкрэсліваем дадатныя эканамічныя рэформы тагачаснай Польшчы, куды ўваходзіў і наш край. Маглі ж і мы, беларусы, пасля 1991 года, пайсці гэтым шляхам. Не пайшлі! І што мы цяпер бачым? Пустыя вёскі, а некаторыя, за апошнія 21 год незалежнасці, зніклі назаўсёды з мапы краіны. Вяскоўцы, найперш моладзь, масава бягуць у горад, нават у іншыя краіны... Гэта ж трэба – за 21 год незалежнасці выхаваць такую пагарду да роднай зямлі!

Дарэчы, у плісікім Кааператыве асвоілі тэхналогію вырабу караля сыроў – сыра Эменталь! Перыяд яго саспявання да 12 месяцаў.

Сыр Эменталь мае характэрны пікантны, рэзкі саладкавы смак; для яго характэрныя буйныя паражніны з-за асаблівасцяў працэсу яго вырабу (вылучэнне вуглякіслага газу бактэрыямі). У некаторых краінах менавіта ён і завецца швейцарскім сырам.




1 Amberg W. **Spółdzielnia mleczarska w Plissie.** *Prace Zakładu ekonomii rolniczej Uniwesytetu Stefana Batorego w Wilnie (Выпуск 6), Zakład Ekonomii Rolniczej. Wilno.*

# Дваццаць трэці драздовіцкі пленэр праходзіць сёлета ва Ушачах



Святлана Баранкоўская, кіраўнік Віцебскай абласной арганізацыі Саюза мастакоў.

**Ён прысвечаны знакамітаму беларускаму паэту Рыгору Барадуліну і праходзіць на яго бацькоўскай сядзібе.**

■ **Зміцер Лупач**

Гэта ўжо другі пленэр, прысвечаны знакамітаму паэту. Першы адбыўся ў 2009 годзе. Як кажа кіраўнік Віцебскай арганізацыі мастакоў **Святлана Баранкоўская**:

– *Гэта быў адзіны пленэр, які быў прысвечаны знакамітаму земляку яшчэ пры жыцці. І калі мы прыязджалі на гэтую сядзібу, дзядзька Рыгор нас сустракаў, частаваў, ён нас ніколі не грузіў сваімі вершамі, проста цікава размаўляў, гэта ўражанне на ўсё жыццё. Беларуская мова ў яго проста смачна выходзіла з самага сэрца. І пасля гэтага немагчыма было не палюбіць мову і не размаўляць на ёй.*

Анаогул, гэта ўжо дваццаць трэці пленэр, які праводзіць культурна-асветніцкі Цэнтр імя Язэпа Драздовіча на чале з Адай Райчонак. Па словах спадарыні Ады, яны з Рыгорам Барадуліным былі добрымі сябрамі.

На адкрыцці мерапрыемства, акрамя саміх мастакоў, прысутнічалі прадстаўнікі мясцовай улады, журналісты з Ушачаў і Глыбокага, ушачане, якія цікавяцца творчасцю знакамітага земляка, а таксама жонка паэта Валянціна Барадуліна.

– *Я думаю, што прадстаўнікоў улады варта запрашаць на такія мерапрыемствы*, – кажа Святлана Баранкоўская, – *бо калі праходзіць нейкі падзел, гэта не на карысць грамадству. Тыя чыноўнікі, якія працуюць зараз ва ўладзе, яны ж у сваёй большасці разам з намі хадзілі ў школы, гэтыя людзі таксама марылі, каб было добра, прыгожа... Тое, што яны зараз у гэтых варунках, то я не ведаю, гэта іх шчасце ці бяда, але мы павінны працаваць з уладамі. Прычым не ў тым ліку, а ў першую чаргу.*

Усяго ў пленэры бяруць удзел каля трыццаці мастакоў, сярод якіх вельмі шмат моладзі. Са знакамітасцяў тут прысутнічаюць Алесь Марачкін, Святлана Баранкоўская, Часлаў Шамшур, Алесь Саўчанка і іншыя. Ёсць нават прадстаўнік Кітая Сянь Шоу, які ў захапленні ад беларускай прыроды і культуры. Ён ужо нядрэнна вывучыў беларускую мову. Наконт таго, што беларусы саромяцца сваёй мовы Сянь Шоу кажа:

– *Трэба развіваць сваю краіну і культуру. Калі яны будуць моцныя, то людзі самі захочуць на ёй размаўляць. Зараз у вас шмат дзяцей вучаць кітайскую мову, а вось чаму яны не хочуць вучыць беларускую? Я лічу, калі краіна будзе моцнай, то нават у Амерыцы захочуць вучыць беларускую мову. І тут нават не трэба людзей прымушаць яе вучыць, трэба паказаць, што ведаць мову – гэта класна. І людзі гэта зразумеюць. Бо мы ў сябе нават не абмяркоўваем, на якой мове нам размаўляць.*

Напачатку мерапрыемства Святлана Баранкоўская ўручыла мастакам падарункі: чыстыя мастацкія палотны, фарбы і кнігі Рыгора Барадуліна. Потым самай маладой мастачцы Машы Пяшкун даручылі пасадзіць дубок, які нядаўна вылез з зямлі на барадулінскай сядзібе. Дрэўца яна атрымала з рук знакамітага беларускага мастака Алеся Марачкіна, што таксама сімвалічна. Дубок быў пасаджаны каля сцежкі, непадалёк ад бацькоўскага дома паэта.

– *Мне вельмі спадабалася, было цікава, бо ўся ўвага была скіравана на мяне*, – дзеліцца сваімі ўражаннямі Маша, – *ён вырасце вялікі, я некалі прыеду сюды і пагляджу на яго.*

А пасля мастакоў і гасцей чакаў пачастунак, гучалі ўспаміны пра Барадуліна, чыталіся яго вершы, выконваліся беларускія песні, у тым ліку і на словы паэта.



Сянь Шоу.



Маша Пяшкун саджае дубок на сядзібе Барадуліна.

# Правільныя паводзіны на вадзе




Спаборніцтвы выратавальнікаў на возеры Мушкат, 2013 г. *Фота Зміцтра Лупача.*

**Лета ў кожнага з нас асацыюецца з цёплымі сонечнымі дзянёчкамі, а таксама з купаннем у вадаёмах.**

■ **В.М. Краўчонак,** *намочнік урача-гігіеніста Глыбоцкага РЦГЭ*

**Якімі правіламі павінны кіравацца адпачывальнікі на пляжы?**

Сапраўды, для таго, каб ваш адпачынак не быў азмрочаны няшчасным выпадкам, трэба прытрымлівацца агульнапрынятых нормаў паводзін на пляжы. Нельга купацца ў забароненых для купання месцах рэк, азёр, вадасховішчаў, сажалак і іншых вадаёмаў. Нельга ўязджаць на тэрыторыю пляжу на транспартных сродках, распіваць спіртныя напоі, заплываць за буі і іншыя знакі, якія абазначаюць зоны купання. Нельга падплываць да судоў (маторных, вёсельных лодак) і іншых плавальных сродкаў, узбірацца на тэхнічныя і папераджальныя знакі, скакаць у ваду з лодак, катэраў, прычалаў, іншых збудаванняў, якія не прыстасаваныя для гэтых мэтаў. Нельга выкарыстоўваць выратавальныя сродкі і рыштунак не па прызначэнні, плаваць на дошках, лежаках, бярвеннях, аўтакамерах і надзіманых матрацах, арганізоўваць гульні ў вадзе, звязаныя з ныраннем, а таксама ўчыняць іншыя дзеянні, якія могуць стаць прычынай няшчаснага выпадку. Нельга праць на пляжах бялізну і купаць жывёл. Не забывайце таксама і пра дзяцей. Ніколі не пакідайце іх у час купання адных у вадзе, без нагляду.

**Якія неабходна прыняць меры, каб арганізаваць бяспеку дзяцей на вадзе?**

Каб адпачынак на вадзе не ператварыўся ў трагедыю, неабходна правільна выбраць і абсталяваць месцы купання для дзяцей. Выкладчыкі і інструктары па плаванні павінны сістэматычна растлумачваць дзецям правілы бяспечных паводзін на вадзе, не дапускаць іх да вадаёмаў без нагляду дарослых. Плаванне дапускаецца ў спецыяльна адведзеных месцах, згодна распараджэння Глыбоцкага РВК. Дно акваторый, адведзеных для купання дзяцей, павінна мець паступовы ўхіл, быць без ям, уступаў і небяспечных прадметаў, свабоднае ад ціны і водных раслін.

Участкі купання для дзяцей да 9 гадоў і тых, хто не ўмее плаваць, агароджваюцца штакетным плотам вышынёй над паверхняй вады не меней 0,5 метра. Плаваць дзецям у адкрытых вадаёмах можна ў сонечнае надвор'е пры тэмпературы паветра не ніжэй за 23 градусы. Для купання дзяцей падчас турыстычных паходаў, экскурсій выбіраецца неглыбокае месца з спадзістым дном, без карчоў, вострых камянёў, багавіння, глею. Абследаванне месца купання праводзіцца дарослымі, якія ўмеюць добра плаваць, хто ведае прыёмы ратавання і аказання першай дапамогі. Межы месцы купання абазначаюцца паплаўковай агароджай, вехамі, жэрдкамі або іншымі падручнымі сродкамі. Дзецям, якія не ўмеюць плаваць, купацца падчас паходаў забараняецца. Перад пачаткам купання праводзіцца інструктаж аб мерах бяспекі на вадзе.

Неабходна памятаць аб тым, што з-за бестурботнасці дарослых штогод у вадаёмах гінуць дзеці, а ў 50 працэнтах выпадкаў – людзі гінуць у вадзе ў нецвярозым стане.

**Памятаеце пра тое, што адпачынак ля вады можа стаць для вас прыемным правядзеннем часу. Але ў выпадку невыканання элементарных правілаў паводзін можа ператварыцца ў трагедыю.**

# Паклапаціцеся аб сваёй бяспецы

## УВАГА! Веласіпедыст!



**Удзельніцы велапараду на шпільках у Брэсце.** *Фота БелТА*

**Паважаныя ўладальнікі веласіпедаў! Мы лічым сваім абавязкам нагадаць Вам, што з пачаткам восені і скарачэннем светлавога дня павялічваецца колькасць наездаў транспартнымі сродкамі на веласіпедыстаў, што прыводзіць да цяжкіх наступстваў, у тым ліку і да гібелі.**

■ **Заяц Ю.В.,** *часовы выканаўца начальніка АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі*

З мэтай папярэдження дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам веласіпедыстаў мы прапануем усім веласіпедыстам не чакаць наступлення восені, а загадзя набыць святлоадбівальныя камізэлькі і выкарыстоўваць іх не толькі ў начны час, але і днём.

З кожным годам у нашай краіне ўсё больш становіцца папулярным як від спорту – катанне на веласіпедзе. Наяўнасць вялікай колькасці веласіпедаў на дарогах ускладнае ўмовы руху, а невыкананне веласіпедыстамі правілаў дарожнага руху прыводзіць да дарожна-транспартных здарэнняў з цяжкімі наступствамі.

Неабходна выконваць асноўныя патрабаванні Правілаў дарожнага руху (глава 20), якія кажуць, што:

■ Рух на веласіпедзе павінен ажыццяўляцца па веласіпеднай дарожцы, а пры яе адсутнасці – па абочыне, тратуары або пешаходнай дарожцы, не ствараючы перашкоды для бяспечнага руху пешаходаў. Пры адсутнасці названых элементаў дарогі ці немагчымасці руху па іх дапускаецца рух веласіпедыстаў па праезнай частцы дарогі ў адзін шэраг не далей за 1 метр ад яе правага краю. Пры гэтым:

● выезд далей за 1 метр ад правага краю праезнай часткі дарогі дапускаецца толькі для аб'езду перашкоды і ў дазволеных выпадках для павароту налева або развароту;

● калоны веласіпедыстаў пры руху па праезнай частцы дарогі павінны быць падзеленыя на групы не больш чым па 10 веласіпедыстаў. Адлегласць паміж групамі павінна складаць не менш за 100 метраў;

● пры наяўнасці на праезнай частцы дарогі лініі гарызантальнай дарожнай разметкі 1.2, якая пазначае яе край, гэтая лінія павінна размяшчацца злева ад веласіпедыста.

■ Пры руху па дарозе ў цёмны час сутак і (або) пры яе недастатковай бачнасці на веласіпедзе або мапедзе павінны быць уключаны: спераду – фара (ліхтар), якая выпраменьвае белае святло, ззаду – ліхтар, які выпраменьвае чырвонае святло.

■ Па-за скрыжаваннямі на нерэгуляваным перасячэнні веласіпеднай дарожкі з дарогай веласіпедыст абавязаны саступіць дарогу транспартным сродкам, якія рухаюцца па гэтай дарозе.

■ Пры перасячэнні праезнай часткі дарогі па пешаходным пераходзе веласіпедыст павінен весці веласіпед побач з сабой і кіравацца патрабаваннямі, прадугледжанымі дадзенымі Правіламі для руху пешаходаў.

■ Рух на мапедзе павінен ажыццяўляцца па абочыне або праезнай частцы дарогі не далей за 1 метр ад правага краю праезнай часткі. Пры гэтым выезд далей за 1 метр ад яе правага краю дапускаецца толькі для аб'езду перашкоды і ў дазволеных выпадках для павароту налева або развароту.

**Веласіпедысту і кіроўцу мапеда забараняецца:**

● выкарыстоўваць тэхнічна няспраўныя веласіпеды і мапеды, а таксама абсталяваныя з парушэннем патрабаванняў тэхнічных нарматыўных прававых актаў;

● рухацца, не трымаючыся за руль і (або) не трымаючы ногі на педалях (падножках);

паварочваць налева або разварочвацца на дарозе, якая мае трамвайны шлях, і на дарозе, якая мае больш за адну палосы для руху ў дадзеным напрамку;

● рухацца па дарозе ва ўмовах снегападу і (або) галалёдзіцы;

● перавозіць пасажыраў, за выключэннем перавозкі дзяцей ва ўзросце да сямі гадоў на дадатковым спецыяльна абсталяваным сядзенні;

● перавозіць грузы, якія выступаюць больш чым на 0,5 метра па даўжыні або шырыні за габарыты транспартнага сродку, а таксама грузы, якія замінаюць кіраванню гэтым транспартным сродкам.

Забараняецца без суправаджэння паўналетняй асобы кіраваць на дарозе асобам, маладзейшым за:

■ чатырнаццаці гадоў – веласіпедам (акрамя пешаходных і жылых зон, тратуараў, веласіпедных і пешаходных дарожак);

■ шаснаццаці гадоў – мапедам (акрамя пешаходных і жылых зон).

Кіроўцу мапеда забараняецца ездзіць па тратуарах, веласіпедных і пешаходных дарожках, дарожках для коннікаў.

Забараняецца буксіроўка веласіпеда і веласіпедам, за выключэннем веласіпеднага прычэпа прамысловай вытворчасці.

Звяртаем увагу веласіпедыстаў на тое, што за кіраванне веласіпедамі з парушэннямі вышэйзгаданых правілаў будуць прымяняцца самыя строгія меры адміністрацыйнага ўздзеяння ў выглядзе штрафу ад 1 да 3-х базавых велічынь, а калі веласіпедыст будзе знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, то штраф складзе 5 базавых велічынь.

Раім абсталяваць з мэтай бяспекі дарожнага руху свае веласіпеды ў адпаведнасці з Правіламі пункт 200. Веласіпед павінен мець спраўную тармазную сістэму, рулявое кіраванне і гукавы сігнал, быць абсталяваны люстэркам задняга віду, спераду святлоадбівальнікам белага колеру, ззаду – святлоадбівальнікам (святлоадбівальнікамі) чырвонага колеру, а з кожнага боку – святлоадбівальнікамі аранжавага колеру.

Таксама хацелася б звярнуць увагу на тое, што ў апошні час з'явілася вялікая колькасць веласіпедаў з падвясным рухавіком, а згодна з Правіламі дарожнага руху – мапед – механічны транспартны сродак, які прыводзіцца ў рух рухавіком з рабочым аб'ёмам да 50 кубічных сантыметраў і які мае максімальную канструктыўную хуткасць руху не больш за 50 км/г. Да мапедаў прыраўноўваюцца веласіпеды з падвясным рухавіком, мокікі і іншыя механічныя транспартныя сродкі з аналагічнымі характарыстыкамі. Гэта значыць, такія транспартныя сродкі з'яўляюцца мапедамі з усімі вынікаючымі наступствамі, а менавіта вадзіцелі мапедаў павінны кіраваць ім у шлеме, мець вадзіцельскае пасведчанне на права кіравання ім, мапед павінен быць зарэгістраваны, застрахаваны і прайсці дзяржаўны тэхнічны агляд.

Гэтыя ісціны прапісаны ў Правілах дарожнага руху, ад сябе хацелася б дадаць, што калі Вы кіруеце веласіпедам – старайцеся гэта рабіць у вопратцы яркіх колераў (аранжавы, каралавы, чырвоны, жоўты, салатавы), гэтым Вы зможаце прыцягнуць большую ўвагу вадзіцеляў механічных транспартных сродкаў і зрабіць паездку на веласіпедзе яшчэ больш бяспечнай.

***

**Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху, паклапаціцеся аб сваёй бяспецы і бяспецы родных і блізкіх!**




**Віншуем з Днём нараджэння!**

З Днём нараджэння Вас,
З прыгожым Вашым днём!
Хай радасць светлая
У Ваш прыходзіць дом!

Хай азарае сонца кожны дзень,
І дням усім жыцця Вы будзьце рады,
Каб неслі людзям, мелі ад людзей
Свята, дабро, душэўную спагаду.

Жадаем быць заўжды здаровым.
Не ведаць смутку і няўдач.
І справядлівым быць, і строгім
У вырашэнні ўсіх задач.

Хай спорыцца любая справа.
Не сустракайцеся з бядой,
І колькі б год ні мінавала,
Душа хай будзе маладой.

*Супрацоўнікі ВГ*

# У інспектараў гарачая пара

**Лета бягучага года выпала не самым гарачым, амаль штодня ідуць дажджы, холадна, аднак у работнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі вельмі гарачая пара.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Для браканьераў, розных парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства любая пара года спрыяльная, яны свядома ідуць на парушэнне закона, а будучы затрыманымі, робяць усялякія спробы адысці ад адказнасці, аж да аказання непадпарадкавання або супраціву службовым асобам Дзяржаўнай інспекцыі.

Назаўжды застанецца ў памяці красавіцкае забойства браканьерам супрацоўніка Аршанскай міжраённай інспекцыі. Ад рук злачынца загінуў егер ДЛГУ «Дзісенскіялясгас», які забіты з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбы. Складваецца ўражанне, што жыццё чалавека для асобных «маральных адмарозкаў» нічога не варта, пазбавіць жыцця чалавека, што жабу раздушыць. Толькі за апошнія два тыдні ліпеня парушальнікі тры разы аказвалі непадпарадкаванне інспектарам Глыбоцкай міжраённай інспекцыі.

Каля 4 гадзін раніцы 30 ліпеня гэтага года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету ў ходзе правядзення кантрольна-палявых мерапрыемстваў паблізу г. п. Шаркаўшчына затрыманыя двое жыхароў раёна, – якія ўчынілі крадзеж дзяржаўнай маёмасці з сажалак ААТ «Рыбгас «Навінкі» Пастаўскага раёна. Затрыманыя грамадзяне з выкарыстаннем забароненых прылад рыбалоўства, 2 стаўных лёсачных сетак, выкралі 95 асобін сажалкавага карпа, агульнай вагой 103 кг. Сума выкрадзенага склала больш за 4 млн. рублёў. Падчас затрымання парушальнікі перасоўваліся на аўтамашыне ВАЗ-2121 «Ніва», не выканалі законных патрабаванні супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі і работніка ДАІ спыніцца, а распачалі спробу схавацца. Аднак праз некалькі кіламетраў пагоні інспектары блакавалі аўтамашыну парушальнікаў службовымі аўтамабілямі, але апошнія аказалі актыўнае непадпарадкаванне і толькі пасля прымянення спецсродкаў (слёзатачывага газу і наручнікаў) здаліся.

У дзеяннях затрыманых угледжваецца склад крымінальнага злачынства згодна ч. 2 арт. 205 КК Рэспублікі Беларусь. Матэрыялы накіраваны ў праваахоўныя органы для дачы прававой ацэнкі. Таксама ў дачыненні да парушальнікаў складзены адміністрацыйныя пратаколы па арт. 23.4 КоАП Рэспублікі Беларусь (Непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы дзяржаўнага органа пры выкананні ім службовых абавязкаў), а супрацоўнікам ДАІ 3 адміністрацыйныя пратаколы за парушэнне ПДР. Кіроўца затрыманай машыны не хаваў, што раней неаднаразова ўчыняў крадзяжы сажалкавай рыбы, нават гэтым ганарыўся, але ўсяму прыходзіць канец. У цяперашні час аўтамашына «Ніва» арыштаваная, выкрадзеная рыба канфіскавана, ацэнку дзеянням парушальнікаў дадуць следчыя органы і суд.

***

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя выказвае падзяку грамадзянам, якія аказваюць садзейнічанне ў навядзенні парадку ў нашых лясах, азёрах.**

**Аб ўсіх учыненых правапарушэннях Вы можаце паведаміць на тэлефон «тэлефон даверу» 8-02156-28670, маб. мтс – 8972302, 8905528, 2494549, 6456678 – кругласутачна.**

